

Жыве Беларусь!

# БЕЛАРУС

Address: P. O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735

BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World ISSN 1054-9455
Published by the Belarusan American Association, Inc.

№ 525 КАСТРЫЧНІК 200
Год выданьня 57

# 27 Сустрэча Беларусаў Паўночнай Амэрыкі

У Нью Брансуіку, штат Нью Джэрзі, 2-4 верасьня сёлета прайшла 27-я Сустрэча Беларусаў Паўночнай Амэрыкі – традыцыйны форум беларусаў ЗША і Канады, а таксама з Бацькаўшчыны ды іншых краінаў, што адбываецца раз на два гады у адной зь мясьцінаў Паўночнай Амэрыкі. Традыцыя Сустрэчаў бярэ свой пачатак з 1952 году, калі ў ліпені месяцы ў мястэчку Нігара Фолз па ініцыятыве Задзіночаньня Беларускай Моладзі адбылася першая Сустрэча, мэта якой была сабраць прадстаўнікоў беларускай грамады Паўночнай Амэрыкі для вырашэньня надзённых арганізацыйных пытаньняў, каардынацыі дзейнасьці, а таксама правядзеньня таварыскіх і забаўляльных імпрэзаў. З таго часу Сустрэчы праводзяцца пад нейкай адмысловай тэмай і ўлучаюць сэмінары й круглыя сталы, а пад канец удзельнікі Сустрэчы прымаюць рэзалюцыю, што рассылаецца па беларускіх асяродках у сьвеце, а таксама ў належныя афіцыйныя ўстановы ЗША і Канады.

Гэтым разам тэма Сустрэчы й Сымпозіюму пры ёй была наступная: "У абарону дэмакратыі ў Беларусі"; у яе праграму былі ўлучаныя паседжаньні круглых сталоў па пытаньнях становішча ў Беларусі, а таксама спосабах, у якія беларуская грамада Паўночнай Амэрыкі, беларусы па ўсім сьвеце, змаглі-б дапамагчы змаганьню за свабоду, дэмакратыю і сапраўдную незалежнасьць Беларусі супраць дыктатуры пра-маскоўскіх антынацыянальных сілаў.



Спн. Івонка Сурвілла дае інтэрвію "Голасу Амэрыкі".

Напачатку сустрэчы ў гатэлі Гаят-Рыджэнсі з уступным словам выступіў кіраўнік арганізацыйнага камітэту Сустрэчы і старшыня аддзелу БАЗА ў Нью Джэрзы сп. Юрка Азарка. Былі прачытаныя праклямацыя ад губэрнатара штату Нью Джэрзі Джона Корзайна і прывітаньне ад кангрэсмэна Крыстафэра Сьміта. Затым прысутныя падзяліліся на дыскусійныя групы, што ўзялі удзел у працы круглых сталоў па тэмах: "Ушанаваньне ахвяраў лукашэнкавага тэрору" (мадэратары — Алеся Кіпель і Юрка Азарка); "Роля беларусаў Паўночнай Амэрыкі ў забясьпечаньні дапамогі дэмакратычнай апазыцыі ў Беларусі" (мадэратары Вячка Станкевіч і Віталь Зайка); "Аналіз прэзыдэнцкіх выбараў 2006 году ў Беларусі, і шанцы апазыцыі на зьмену вынікаў гэтых выбараў" (мадэратары Зянон Пазьняк і Алеся Сёмуха).

У працы першага круглага стала, нажаль, не змагла ўзяць удзел спн. Ірына Красоўская, жонка зьніклага прадпрымальніка Анатоля Красоўскага, якая мелася быць ганаровай кіраўнічкай дыс-

Заканчэньне на бачыне 2




Удзельнікі канцэрту на сцэне.

# Канфлікт на маскоўскай дарозе

Зянон ПАЗЬНЯК

Казуліна засудзілі канчаткова. Пяць з паловай гадоў — абсалютна несувымерны прысуд за дробнае парушэньне (разьбіў партрэт Лукашэнкі ў міліцыі, астатнія абвінавачваньні несур'ёзныя і цалкам палітыканскія). Максімум, што па закону маглі-б прысудзіць Казуліну, — гэта 15 сутак арышту альбо штраф. Але атрымаў неверагодны тэрмін.

З гэтай нагоды я хацеў-бы нагадаць пэўным грамадзянам Беларусі некалькі істотных палажэньняў.

Людзі, якія ўваходзяць у палітыку з жаданьнем лёгка навесьці там парадак, павінны ведаць як мінімум два правілы.

*Правіла агульнае:*

Палітыка ёсьць найвышэйшая і асаблівая грамадзкая сфэра дзейнасьці людзей, дзе трэба быць **палітыкам**. Калі ім ня быць, то ні розум, ні адукацыя, ні грошы, ні навуковыя званьні не дапамогуць. (У палітыцы, дарэчы, нямала абмежаваных і малаадукаваных людзей, неінтэлектуалаў і псыхічна непрадказальных, якія няблага, тым ня менш, спраўляюцца са сваімі, на іх думку, галоўнымі задачамі — ўтрыманьня пасады і ўплыву на грамадзтва.)

*Правіла дастасаванае:*

Ніколі беларускія нацыянальныя інтарэсы не дасягаліся, не дасягаюцца і ня будуць дасягацца пры дапамозе Расеі і расейскай палітыкі. Бо гэта супярэчыць прыродзе дачыненьняў.

Пяцісотгадовая вайна паміж Масковіяй і Вялікай Літвой была вайной цывілізацыйнай і не на жыцьцё, а на сьмерць. (Паўтаруся: гэта не канфлікт інтарэсаў, гэта вайна на сьмерць.) Па ўсіх плянах, дэк-

Працяг на бачыне 3

# Акт аб дэмакратыі ў Беларусі 2007-08

(Belarus Kemocracy Reauthorization Act H.R. 5948)

Якужо паведамлялася раней, мэта гэтага Акту — падтрымка дэмакратыі, правоў чалавека і вяршэнства закону, які ўзмацненьне сувэрэнітэту і незалежнасьці Беларусі.

Працэдура прыняцьця Акту Кангрэсам наступная: законапраект быў прадстаўлены ў канцы ліпеня і перададзены ў Камітэт Міжнародных Дачыненьняў. Пасьля прыняцьця яго там, ён пасылаецца ў Юрыдычны і Фінансавы Камітэты і пазьней прымаецца Кангрэсам уцэлым. Каб Акт пасьпяхова пачаў праходзіць усе гэтыя этапы, патрэбная падтрымка пэўнай колькасьці кангрэсмэнаў.

Мінулы Акт з 2004 году меў падтрымку 14-ці суспонсараў. На гэта спатрэбілася паўгоду, а сёлета на працягу аднаго месяца (у жніўні Кангрэс адпачываў) за Акт падпісалася амаль такая-ж колькасьць. Гэта вельмі добра, але патрабуецца ў два разы больш, каб прысьпешыць усю працэдуру.

У міжчасе, пакольки кангрэсмэны разьяжджаюцца па сваіх акругах у канцы верасьня, каб праводзіць свае выбарчыя кампаніі, у кастрычніку да іх трэба будзе зьвяртацца ў іхныя мясцовыя офісы. Ізноў, трэба пасылаць е-мэйлы, факсы і таксама тэлефанаваць. У большых асяродках, як Нью Ёрк, Нью Джэрзі, Кліўлендзе варта арганізаваць малыя дэлегацыі да мясцовых кангрэсмэнаў.

Каардынаты на кангрэсмэнаў можна знайсьці на старонцы ***www.Congress.org*** ,а з пытаньнямі зьвяртацца на ***Bel_Coalition@yahoo.com*** або звычайнай поштай на адрас газэты "Беларус".

# 27 Сустрэча Беларусаў Паўночнай Амэрыкі

*Заканчэньне з бачыны 1*

кусійнай групы. На гэтым круглым стале былі абмеркаваныя пытаньні, зьвязаныя з справамі зьніклых у 1999-2000 гг., пэрспэктывы аднаўленьня вышуку ў гэтых справах, а таксама ўжыцьцё тэрору супраць свайго народу рэжымам Лукашэнкі. Абмяркоўваліся таксама спосабы, у якія можна найбольш эфэктыўнага аказваць дапамогу пацярпелым ад лукашэнкавага тэрору.

На другім круглым стале былі разгледжаныя падзеі апошніх шасьці месяцаў у Беларусі, уключна з прэзыдэнцкімі выбарамі, і дадзены аналіз цяперашняга стану справаў у апазыцыйных колах у Беларусі. Былі абмеркаваныя шляхі найбольш выніковай дапамогі для апазыцыйных сілаў, а таксама дзеяньні, неабходныя для мабілізацыі беларускай грамады Паўночнай Амэрыкі для дапамогі Бацькаўшчыне, і спосабы, у якія трэба інфармаваць належныя ўлады й інстытуцыі пра становішча ў Беларусі, і ў якія трэба аказваць уплыў на фармаваньне палітыкі ў адносінах да рэжыму ў Беларусі.

Удзельнікі дыскусійнай групы на трэцім круглым стале прааналізавалі падрыхтоўку, ход і вынікі прэзыдэнцкіх выбараў 2006 году і падзеі "гарачага сакавіка". Былі разгледжаныя таксама стан і рэсурсы апазыцыйных сілаў і магчымыя кірункі, у якіх мусіла-б разьвівацца дзейнасьць апазыцыі дзела перагляду вынікаў выбараў, якія не былі прызнаныя ўрадамі краінаў вольнага сьвету.

Па выніках працы круглых сталоў адбылося пленарнае паседжаньне ўдзельнікаў Сустрэчы, на якім былі прадстаўленыя падсумаваньні дыскусыяў на трох круглых сталах і рэкамэндаваныя пункты для ўлучэньня ў рэзалюцыю Сустрэчы.

Пазьней увечары ў вялікай залі гатэлю Гаят-Рыджэнсы адбылася баль-сустрэча ўдзельнікаў імпрэзы.

Назаўтра, 3 верасьня, удзельнікі Сустрэчы наведалі набажэнства ў царкве Жыровіцкае Божае Маці Беларукай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў Гайленд Парку. Потым адбыўся банкет, на якім прагучэлі прывітаньні ўдзельнікам Сустрэчы і выступілі ганаровыя госьці. Ўслед за банкетам прайшоў канцэрт з удзелам славутай Валянціны Пархоменка і трыё сям'і Казакоў. Па выніках працы Сустрэчы была прынятая рэзалюцыя і зварот.

***Віталь ЗАЙКА***



*Выступае трыё сям'і Казакоў, Алесь, Валянціна і Вольга.*

# Выстава з удзелам беларускіх мастакоў

У Музэй Сучаснага Расейскага Мастацтва ў Джэрзі Сіці, Нью Джэрзі, ад 10 да 24 верасьня 2006 году прайшла выстава працаў беларускіх, расейскіх, грузінскіх, французкіх і амэрыканскіх мастакоў.

Ад Беларусі ўдзел у выставе прынялі такія вядомыя майстры як Алесь Шатэрнік, Алесь Марачкін, Міхаіл Карпук, Уладзімер Сулкоўскі і інш. Таксама ў выставе ўзяла ўдзел маладая беларуская мастачка Юля Шатэрнік.

## АДОЗВА

**ініцыятыўнай групы Міжнароднага камітэту па сьвяткаваньні 450-й гадавіны з дня нараджэньня Льва Сапегі**

У сувязі з гадавінай нараджэньня нашага знакамітага продка вялікага дзеяча пабудовы беларускай дзяржаўнасьці, канцлера Вялікага Княства Літоўскага Льва Сапегі прапануем шырока і з гонарам адзначыць угодкі ягонага дня нараджэньня ( 4.IV.1557 )

Дзеля арганізацыі ўрачыстага ўшанаваньня памяці Льва Сапегі прапануем стварыць Міжнародны камітэт па арганізацыі сьвяткаваньня угодкаў і заклікаем усіх беларусаў да супрацоўніцтва.

Усе прапановы дасылайце на адрас hr_ec@tut.by

***Барыс КІТ,***
***сябра Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі***

***Аляксандар БАРШЧЭЎСКІ,***
***прафэсар Варшаўскага ўніверсытэту RP***

***Валеры ГРЫЦУК,***
***сябра-заснавальнік Фонду імя Льва Сапегі***

***Аляксей МАРАЧКІН,***
***мастак, прэзыдэнт МГА "Бацькаўшчына"***

# РЭЗАЛЮЦЫЯ

## 27-й Сустрэчы Беларусаў Пачночнай Амэрыкі

Мы, удзельнікі 27-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі, прадстаўнікі беларускай грамады Злучаных Штатаў Амэрыкі і Канады, што сабраліся на свой форум тут у штаце Нью Джэрзі, ЗША:

Асуджаем антынацыянальны аўтарытарны рэжым, які быў створаны ўзурпатарам Лукашэнкам у выніку скасаваньня правоў і свабодаў грамадзянаў; тэрарызаваньня апазыцыйных сілаў і перасьледу ўсіх нязгодных з мэтамі й мэтадамі сёнешняй улады; патаптаньня нацыянальных каштоўнасьцяў, беларускай мовы й культуры, ліквідацыі беларускамоўных школаў; самаізаляцыі дзяржавы на міжнароднай арэне; авантурнага й недальнабачнага кіраваньня эканомікай; гандлю сувэрэнітэтам і незалежнасьцю краіны ў абмен на вышэйшую пасаду для Лукашэнкі ў суседняй дзяржаве; выкраданьня й зьнішчэньня палітычных апанэнтаў.

Адзначаем, што сёньня, як ніколі, дэмакратычная апазыцыя на нашай Бацькаўшчыне вымагае падтрымкі й дапамогі. Сілы, якія змагаюцца супраць незалежнага дэмакратычнага выбару Беларусі сёньня, дзякуючы падтрымцы пэўных колаў Расеі й некаторых іншых краінаў, цалкам кантралююць дзяржаўны апарат, сродкі масавай інфармацыі ды ўсе іншыя сфэры жыцьця грамадзтва. Дзякуючы ўжыцьцю супраць беларускага народу карных ваенізаваных структураў ды брутальных рэпрэсіўных мэтадаў, рэжым Лукашэнкі здолеў запалохаць пэўную частку грамадзтва, а значная колькасьць нязгодных з рэжымам грамадзянаў апынулася на эміграцыі. Але істотная частка грамадзтва не скарылася і працягвае барацьбу. Выказьнікам волі гэтых людзей ёсьць дэмакратычная апазыцыя, што працуе ва ўмовах, блізкіх да абставінаў сталінскіх часоў і паваенных камуністычнага тэрору ў Эўропе. Аб'яднаная Эўропа, вызваленая ад таталітарызму, нажаль, сёньня робіць для Беларусі значна менш, чым магла-б зрабіць. Дзеля гэтага мы, беларусы Паўночнай Амэрыкі, ускладаем спадзяваньні на ўрады нашых краінаў — ЗША і Канады, у справе дапамогі Беларусі дзеля дэмакратычных зьменаў і ў справе падтрымкі дэмакратычнай апазыцыі.

Заклікаем урады ЗША, Канады й краінаў Эўропы заявяць аб недапушчальнасьці незаконнага рэфэрэндуму пра так званы "канстытуцыйны акт" незаконнай так званай "саюзнай дзяржавы Беларусі й Расеі". Таксама заклікаем урад ЗША гарантаваць выкананьне прынцыпаў Будапэшцкай дэкляраці 1994 году аб гарантыях сувэрэнітэту і незалежнасьці Беларусі.

Заклікаем усіх беларусаў і выхадцаў зь Беларусі ў ЗША і Канадзе, амэрыканцаў і канадыйцаў з каранямі ў Беларусі, дапамагчы сваёй Бацькаўшчыне і краіне продкаў аднавіць дэмакратыю і сапраўдную незалежнасьць. Зрабіць гэта можна праз дапамогу дэмакратычнай апазыцыі Беларусі ў выглядзе збору фінансавых сродкаў, удзел у кампаніях салідарнасьці й пратэсту, падтрымку заканадаўчых ініцыятываў датычных Беларусі, працу з сваімі сэнатарамі й кангрэсмэнамі, інфармаваньне парлямэнтароў і прадстаўнікоў урадаў пра становішча ў Беларусі, адзначэньне адмоўнай ролі Расеі ў беларускім пытаньні, прыцягненьне ўвагі да непасьлядоўнай пазыцыі Эўразьвязу да рэжыму Лукашэнкі (асуджэньне на словах і актыўны гандаль). Разам, аб'яднаўшыся, мы ўсе — каму дарагая Беларусь і ейная будучыня — зможам дабіцца пераломy сёнешняга становішча ў Беларусі, зможам справай дапамагчы дэмакратычнай апазыцыі, зможам наблізіць дзень краху рэжыму, які называюць апошняй дыктатурай Эўропы.

***3 верасьня 2006 г., Нью Брансуік, Нью Джэрзі***

# ЗВАРОТ

## Аб выратаваньні беларускай культуры ад вынішчэньня

Антыбеларускі рэжым, які існуе ў Беларусі, мэтанакіравана і сыстэматычна вынішчае беларускую культуру. Гэтая палітыка ёсьць злачынствам супраць нацыі і зьяўляецца часткай этнацыду – пазбаўленьнем народу культурных здабыткаў і культурных каштоўнасьцяў.

Кожны год зачыняюць беларускія школы (у Менску цяпер засталіся толькі чатыры), ліквідуюць беларускія арганізацыі, якія зьяўляюцца культурнай асновай нацыі. Гэтак вынішчаюць нацыянальную навуку ў Акадэміі Навук, разбураюць Рэдакцыю Беларускай Нацыянальнай Энцыкляпэдыі, зачыняюць беларускія часапісы і газэты, разбураюць Саюз пісьменнікаў Беларусі. Апошнія падзеі: рэжымныя ўлады Лукашэнкі адабралі ў пісьменьнікаў Дом літаратара, пісьменьнікаў выкінулі на вуліцу, унікальная бібліятэка пісьменьнікаў (каля 40 тысячаў кнігаў) і архіў ліквідаваныя, зьнішчаны мэмарыяльны пакой Максіма Танка. Над усім беларускім чыніцца адкрыты зьдзек.

Працягваецца грубае вынішчэньне рэжымам беларускай мовы. Апошняя падзея: некампэтэнтны ў мове і культуры чалавек на пасадзе прэзыдэнта загадаў на працягу двух тыдняў зрабіць рэформу правапісу беларускай мовы. Па прыкладу колішніх сталінскіх сатрапаў (якія таксама "рэфармавалі" нашу мову) Лукашэнка, які заявіў пра сваю непавагу да беларускай мовы, хоча зацьвердзіць гэты свой правапіс у якасьці абавязковай нормы.

Сталінізм сваімі шорамі ставіў задачу спыніць існаваньне і разьвіцьцё беларускай мовы, паралізаваць беларускую літаратурную творчасьць. Тое-ж самае робіць прамаскоўскі рэжым Лукашэнкі.

Мы зьвяртаемся да ўсіх суайчыннікаў на Бацькаўшчыне і за мяжой, да ўсіх беларусаў па ўсім сьвеце.

Абаронім беларускую мову і культуру! Не дамо яе зьнішчыць антыбеларускім сілам і вечным непрыяцелям нашай Бацькаўшчыны! Памятайма, што Беларусь, нашая мова і культура жывуць датуль, пакуль жывем мы, пакуль любім і баронім Беларусь.

Дапамагайма сабе ўсімі сіламі, разумам, духам і сродкамі. Набліжайма вяртаньне да лепшага, годнага жыцьця. Набліжайма сьветлую будучыню Беларусі!

***3 верасьня 2006 г., Нью Брансуік, Нью Джэрзі***

# Беларусь за месяц

## Дзень ведаў

У першы дзень верасьня ў Беларусі традыцыйна адзначаецца Дзень ведаў. Дзеці ідуць у школы, усіх апаноўвае сьвяточны настрой. Але самымі цікавымі — у той-жа час далёка не сьвяточнымі — у гэты дзень падаліся неафіцыйныя мерапрыемствы ў беларускай сталіцы.

А 10-й гадзіне пад сьцены былога будынку Гуманітарнага ліцэю імя Я. Коласа прыйшлі навучэнцы і настаўнікі гэтай установы. Ужо тры гады, як ліцэй пазбаўлены будынку і афіцыйнага статусу, і дзеці мусяць займацца на прыватных кватэрах і офісах грамадзкіх арганізацыяў.

Ля брамы будынку пад дажджом была зладжаная ўрачыстая лінейка. Перад прысутнымі выступіў дырэктар ліцэю Ўладзімер Колас, які заявіў, што нягледзячы на ўсе перашкоды і неспрыяльныя абставіны, установа працягвае існаваньне. Вучні, у сваю чаргу, выканалі ліцэйскі гімн ды паклалі бел-чырвона-белыя кветкі ля агароджы будынка.

Праз гадзіну пасьля ліцэйскай лінейкі, на Плошчы Якуба Коласа быў зладжаны яркі, відовішчны пэрформанс. Маладыя хлопцы прыцягнулі на плошчу драўляную шыбеніцу і закінулі на яе вяроўку зь пятлёю. Потым да шыбеніцы выйшаў кат апрануты ў чырвона-зялёны балахон (а-ля Ку-Клукс-Клан), які нёс велізарны бел-чырвона-белы падручнік з надпісам "Гісторыя Беларусі" (гэтая школьная дысцыпліна будзе цяпер выкладацца па-расейску) з аднаго боку, і "Беларуская мова" з другога. На вачох мінакоў падручнік быў урачыста павешаны. Акцыя была настолькі хуткая, што міліцыянты зьявіліся на плошчы толькі праз некалькі хвілін, калі ўдзельнікі пэрформансу разьбегліся.

Увечары 1 верасьня ў Менску прайшла акцыя ў абарону беларускай мовы. Некалькі маладых людзей выйшлі на былы праспэкт Машэрава (сёньня Пераможцаў). Некаторыя зь іх начапілі на сябе вялікія бел-чырвонабелыя скрыні з выразамі для вачэй і з надпісамі "Беларуская мова". Яны прасілі людзей ставіць подпісы пад тым, каб выкладаньне гісторыі Беларусі ў школе вялося па-беларуску. За дзьве гадзіны былі сабраныя больш як 200 подпісаў.

## Арышт В. Сіўчыка

Вячаслава Сіўчыка затрымалі 12 верасьня ў кавярні ля тэатру Янкі Купалы. Нагадаем, што Вячаслаў Сіўчык, адзін з арганізатараў наметавага гарадку на Плошчы падчас сакавіцкіх падзеяў, быў арыштаваны і моцна зьбіты 23 сакавіка. Яго тады падманам вывезьлі з Плошчы. Але асудзіць яго не атрымалася, бо сп. Сіўчык трапіў у бальніцу, потым арыштавацца яго не дазволілі журналісты, а пазьней ён выехаў ва Украіну. У траўні яго завочна асудзілі на 10 сутак. Цікава, што тэрмін даўніны па адміністрацыйных справах два месяцы, і ў Сіўчыка ён прайшоў 19 ліпеня.

Аднак 12 верасьня ён быў затрыманы і адвезены ў прыёмнік-спэцразьмеркавальнік адбываць "паложаныя" 10 сутак. 14 верасьня Менскі гарадзкі суд задаволіў скаргу Сіўчыка аб тэрміне даўніны і адмяніў прысуд. На наступны дзень, 15 верасьня, сваякі Вячаслава паехалі на Акрэсьціна з паперамі ў руках. Натуральна, што іх мужа і бацьку не адпусьцілі – на наступны дзень плянаваўся так званы "Вялікі джынсавы фэст" (які прайшоў вельмі няўдала), і ўлады палічылі, што адпускаць аднаго зь лідэраў апазыцыі немэтазгодна. Вячаслава пратрымалі да панядзелка, 18 верасьня, і тады паўторна адмералі 10 сутак. З улікам адсядзелага раней, сп. Сіўчык выйшаў на волю ў пятніцу, 22 верасьня. Цынізм праваахоўнікаў з тым, што выпусьцілі яго а 4-й раніцы. Нібыта ў гэты час былі затрыманыя ўдзельнікі наметавага гарадку 24 сакавіка. Але-ж Сіўчыка там не было, у той час ён быў ужо паўдня як арыштаваны.

## "Малады фронт"

14 верасьня ў Магілёве быў зроблены "налёт" АМОНу на офіс адной з грамадзкіх арганізацыяў, што знаходзіцца ў прыватным доме. У гэты час у памяшканьні мусіла прайсьці паседжаньне абласной арганізацыі "Маладога фронту", на якое прыйшлі як мясцовыя актывісты, так і іхныя калегі зь Менску (лідэры арганізацыі Зьміцер Дашкевіч і Сяргей Лісічонак).



*Зьміцер Дашкевіч*

АМОНаўцы патлумачылі сваё ўварваньне тым, што пазванілі суседзі і паскардзіліся, што нібыта ў гэты дом завезьлі тратыл. Моладзь – больш як 20 чалавек – пагрузілі ў аўтобус і адвезлі ў пастарунак. Пад 21-ю гадзіну ўсіх адпусьцілі.

Але 15 верасьня ў рэспубліканскую пракуратуру быў выкліканы Зьміцер Дашкевіч. Выклік тлумачыўся правядзеньнем экспэртызы голасу па выніках раздрукоўвак тэлефонных размоваў з былым лідэрам арганізацыі Паўлам Севярынцам. У пракуратуры Зьміцера адразу арыштавалі і адвезьлі ў сьледчы ізалятар на Валадарскага. 21 верасьня яму прад'явілі абвінавачаньне ва ўдзеле ў незарэгістраванай арганізацыі.

Значна пагоршыліся справы і ў палітвязьня Артура Фінькевіча, які адбывае пакараньне на магілёўскай "хіміі". 14 верасьня ён браў удзел у сходзе, разагнаным АМОНам, хоць ня меў на гэта права. Афіцыйна ён знаходзіўся ў шпіталі пасьля апэрацыі. Цяпер Артура наўрад ці вызваляць умоўна-датэрмінова, на што ён вельмі спадзяваўся.

Як ня вызваляць і Паўла Севярынца, пра што ён даведаўся 8 верасьня. Мала таго, Паўлу пагражае новы тэрмін, па справе "Маладога фронту".

## ARCHE пакаралі

Рэдакцыя часапісу атрымала 21 верасьня ліст зь Міністэрства інфармацыі, у якім выносіцца папярэджаньне за парушэньне артыкулу №11 «Закону РБ аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі». Падстава – зьмена тэматыкі (спэцыялізацыі) часапісу публікацыямі грамадзка-палітычнага характару. У выніку Мінінфармацыі прыпыніла на тры месяцы выданьне часапісу. Цікава, што выдаўцы неаднаразова зьвярталіся ў Міністэрства з просьбаю перарэгістраваць выданьне, як грамадзка-палітычнае, але ім адмаўлялі.

Галоўны рэдактар Валер Булгакаў мяркуе, што сапраўднай прычынай прыпыненьня ёсьць апошні нумар (№9, 2006) часапіса, дзе на вокладцы зьмешчаныя твары работнікаў спэцслужбаў, што выцясьняюць дэманстрантаў з праспэкту падчас падзеяў 25 сакавіка 2006 году. Таксама ў нумары зьмешчаныя ўспаміны дэпутатаў пра выкіданьне галадоўшчыкаў з Авальнай Залі Вярхоўнага Савету 12 скліканьня 12 красавіка 1995 году.

## Заява Казуліна

19 верасьня не была задаволеная скарга экс-кандыдата ў прэзыдэнты Аляксандра Казуліна на неправамоцнасьць прысуду (за ўдзел у сакавіцкіх падзеях А. Казулін атрымаў пяць з паловаю гадоў калёніі). Лідэру БСДП (Грамада) давядзецца сядзець поўны тэрмін у калёніі ў вёсцы Віцьба Віцебскага раёну.

20 верасьня А. Казулін выступіў з заявай «да грамадзянаў Беларусі, прадстаўнікоў замежных дзяржаваў і міжнародных арганізацыяў з прычыны скончэньня тэрміну паўнамоцтваў прэзыдэнта Лукашэнкі». Ён прапанаваў чатыры рэчы:

- неадкладна правесьці кангрэс аб'яднаных дэмакратычных сілаў, дзе прыняць пакт нацыянальнай згоды і грамадзянскага міру, праграму першачарговых дзеяньняў па дзяржаўна-прававым і сацыяльна-эканамічным разьвіцьці краіны, сфармаваць урад народнага даверу ці іншы паўнамоцны калегіяльны орган;
- прадугледзець магчымасьць дзеяньня ўраду за межамі Беларусі;
- палітрада аб'яднаных дэмакратычных сілаў павінна зьвярнуцца да прэм'ер-міністра Сяргея Сідорскага з патрабаваньнем, у адпаведнасьці з Канстытуцыяй, прыняць з 21 верасьня на сябе часовае выкананьне абавязкаў кіраўніка дзяржавы і прызначыць пазачарговыя прэзыдэнцкія выбары;
- неабходна стварыць нацыянальную камісію для арганізацыі і правядзеньня міжнароднага грамадзкага трыбуналу.

Таксама Аляксандар Казулін заявіў, што з 20 кастрычніка распачне бестэрміновую галадоўку ў знак пратэсту супраць парушэньня заканадаўства (трэці прэзыдэнцкі тэрмін) кіраўніком дзяржавы.

Выглядае, што найбольш рэальнае з усяго пералічанага – галадоўка. Бо Сідорскі ні 21, ні 22, ні 25 верасьня ня ўсклаў на сябе абавязкі прэзыдэнта, а дэмапаўскія на думае склікаць новы кангрэс на жаданьне Казуліна.

***Уласны карэспандэнт***

# Канфлікт на маскоўскай дарозе

*Працяг з бачыны 1*

лярацыях, дактрынах і дзеяньнях расейцаў, іхняга царызму, бальшавізму, сацыялізму, гэбізму-пуцінізму мы, ліцьвіны-беларусы, павінны зьнікнуць з палітычнай і культурнай мапы сьвету. Расейцы адкрыта, нястомна і ўвесь час пра гэта кажуць (а гісторыя вынішчэньня пацьвярджае).

Беларусы, якія ідуць у палітыку і ігнаруюць гэтую прыроду рэчаў, як правіла, у выніку прыносяць шкоду Беларусі і асабіста сабе. Бо наіўныя і абсурдныя ёсьць думачкі скарыстаць расейцаў (і найперш расейскія грошы) супраць прарасейскага Лукашэнкі (у той час калі ён патрэбны Расеі).

Тым часам НКВД-КГБ-ФСБ за сваіх мэтадаў ніколі не адступаецца: скарыстаць наіўнячкоў і, пасьля зрабленьня імі справы, "выплюнуць" іх (а калі ўзьнікнуць "праблемы", то і забіць).

Лёсы Карпенкі, Ганчара, Чыгіра, Марыніча, Казуліна нічаму, аднак, не навучаюць. Аматары сыграць у "апазыцыю" і абдурыць маскоўцаў на мякіне не пераводзяцца. У выніку – абдуроваюць самых сябе, бо сьляпы не заблудзіць відушчага.

У дачыненьнях з Расеяй (дакладней, у вечным канфлікце з Расеяй) ёсьць два шляхі – гэта дарожка Лукашэнкі (прамаскоўская палітыка) і – шлях нацыянальна-незалежніцкі (палітыка Беларускага Адраджэньня). Іншых шляхоў ("трэціх", "чацьвертых" і т. п.) не існуе. Казуліны, Карпенкі, Чыгіры, Ганчары, Марынічы і ім падобныя хадзілі дарожкай Лукашэнкі супраць Лукашэнкі (які, паўтараю, Маскве выгадны). У выніку гэтыя асобы былі скарыстаныя ў маскоўскіх палітычных інтрыгах у Беларусі і потым (пасьля выкарыстаньня) кінутыя на волю лёсу (дакладней, на волю Лукашэнкі) альбо зьнішчаныя.

Аналізуючы выказваньні гэтых людзей і датычных да іх (В. Лявонава, А. Мілінкевіча і г. д.), відаць, што ніхто зь іх па сутнасьці глыбока не ўсьведамляе падзеяў і зьместу расейска-лукашэнкаўскай палітыкі. Ніхто не зьбіраецца адмаўляцца ад "дарожкі Лукашэнкі" ў нібыта "змаганьні" з Лукашэнкам. Ніхто не гатовы ісьці дарогай барацьбы супраць расейскай антыбеларускай палітыкі, стаць на нацыянальна-незалежніцкі шлях Беларускага Адраджэньня, бо гэта ня тыя людзі.

Гэта добра ілюструе, дарэчы, нядаўняя (*20.09.2006*) заява А. Казуліна. Тут поўна пустых прапановаў і пустапарожніх фразаў пра "правы чалавека", "рэжым" і "аб'яднаньне" ўсіх супраць рэжыму, апэляцыя да Захаду і г. д. Але ні слова няма пра галоўнае: пра лёс Беларускай незалежнасьці перад палітычнай і эканамічнай агрэсіяй Расеі, пра тое, супраць чаго і за што беларусам трэба змагацца, каб захаваць сваю дзяржаву, мову, культуру, народ і незалежнасьць.

Пішацца, што "А. Лукашэнка разьвязаў халодную грамадзянскую вайну супраць свайго народу", але не гаворыцца, у чым-жа сутнасьць гэтай вайны. Бо і фармулёўка няправільная. Не "грамадзянскую вайну" вядзе Лукашэнка, а антынацыянальную, антыбеларускую, (па прыкметах тыпова акупацыйную са зьнешнімі палітычнымі прывязкамі), перасьледуе нацыянальную беларускую моладзь, нацыянальныя сымбалі, мову, культуру, фальсыфікуе нацыянальную гісторыю, зьнішчае нацыянальную літаратуру, нацыянальную навуку, нацыянальны беларускі друк, беларускі інтэрнэт, ліквідуе беларускую школу і выкладаньне па-беларуску, публічна зьдзекуецца з нацыянальнай мовы і блюзьнерыць над памяцьцю Васіля Быкава і Францыска Скарыны.

Гэта ашаламляльная зьява ў XXI стагодзьдзі. Прамаскоўскай уладай у Беларусі і ад імя ўлады праводзіцца агрэсіўная палітыка этнацыду і вынішчэньня беларускай культуры. Робіцца гэта адкрыта і нахабна. Але маўчаць тут вандроўнікі па маскоўскіх сьцежках, і нічога ня піша Казулін.

Чаму яны маўчаць? Таму што яны самыя русыфікатары, якія канфліктуюць з Лукашэнкам па непрынцыповых для нацы пытаньнях.

***Не бывае дэмакратыі без нацыі і не існуе дэмакратыя без незалежнай дзяржавы.*** Дэмакратыя ёсьць зьява вытворная ад нацыі і дзяржавы. Тым часам цяпер беларуская нацыя і незалежнасьць пад пагрозай зьнішчэньня.

Дык чаму яны ўвесь час гучна плачуць па валасах, трацячы галаву? Таму што гэты лямант засьмяне людзям розум і адводзіць ад разуменьня галоўнай небясьпекі. Масква ўмела падтрымоўвае і накіроўвае гэтую палітычную дэмагогію. Гэ-Бэ падтрымоўвае – Караганаў (выраблены вораг беларушчыны) занепакоены, бачыце, дэмакратыяй і "правамі чалавека" (рускіх обіжают) у Беларусі.

Дыктатура, этнацыд, інкарпарацыя ёсьць узаемазьвязаныя зьявы. Таму відавочна, што русыфікатары не могуць мабілізаваць нацыю на барацьбу з дыктатурай, якіх-бы філіпік супраць яе яны не ўжывалі. Урэшце рэшт яны стануць, як і рэжым, душыць беларускую мову, Бела-

***Заканчэньне на бачыны 4***

# Трохі аб Тадэвушу Касьцюшку



Андрэй Тадэвуш Банавэнтура Касьцюшка (04.02.1746 – 15.10.1817) быў, без сумніву, вялікай гістарычнай асобай. Палякі ўважаюць яго за свайго патрыёта і нацыянальнага героя. А беларусы, дзеля таго што нарадзіўся ён у Беларусі і за ягонае паходжаньне, лічаць яго беларускім героем.

Трэба прызнаць, што і палякі, і беларусы маюць права называць Т. Касьцюшку сваім. Але ў жыцьці гэтага выбітнага чалавека было шмат выпадкаў, пра якія польскія гісторыкі, па зразумелых прычынах, стараюцца не гаварыць. У гэтым кароткім артыкуле я пастараюся ўспомніць некаторыя такія малавядомыя факты.

Нарадзіўся ён у Мерачоўшчыне каля Косава на Палесьсі. Але маці Тадэвуша, Тэкля Ратальская, не была паляшучкаю. Ёсьць дакумэнты, якія сьведчаць, што нарадзілася яна ў шляхецкай уніяцкай сям'і недалёка ад Воршы. Трэба тут ўспомніць, што ўніятамі былі выключна беларусы й украінцы, колішнія праваслаўныя. Дык можна сьмела казаць, што Тэкля Ратальская была беларуска. Натуральна сам Тадэвуш Касьцюшка, ад маці беларускі й уніяткі, мусіў быць таксама ня кім іншым, як беларусам. Трэба таксама ўзгадаць, што дзед Т. Касьцюшкі па маці быў уніяцкім сьвятаром.

Мала гэтага, маці Тэкля, верная сваёй рэлігіі, ахрысьціла свайго сына ва ўніяцкай царкве, дзе й надалі яму імя Андрэй. Бацькі Тадэвуша ў той час не было дома. Калі-ж ён вярнуўся і даведаўся, што сына ўжо ахрысьцілі, то не пагадзіўся з гэтым і перахрысьціў малога ў рыма-каталіцкім касьцёле ў Косаве, дзе той і атрымаў імя Тадэвуш. Ад гэтага часу Касьцюшка вядомы як Тадэвуш, а Андрэй успамінаецца толькі ў бібліяграфічных даведніках і энцыклапэдыях.

Пазьней маці Т. Касьцюшкі пераехала жыць у вёску Даўгаліскі ў Люблінскім ваяводзтве ў Польшчы, дзе была ўніяцкая царква. Сам Тадэвуш Касьцюшка вельмі добра памятаў пра свае ўніяцкія карані, бо менавіта гэтай царкве ў Даўгаліскіх ён ахвяраваў свой ордэн Цынцынаты, які атрымаў з рук амэрыканскага прэзыдэнта Джорджа Вашынгтона. Цікава было-б даведацца працяг гісторыі гэтага ордэну, і дзе ён знаходзіцца цяпер.

Сказаўшы гэта, да месца будзе ўспомніць і іншы погляд Касьцюшкі на традыцыі ўніяцкай царквы – царквы ягонай маці й ягоных продкаў. Ён, вялікі герой вызвольных войнаў і дэмакрат, ня вагаўся прапанаваць польскаму ўраду змусіць уніяцкіх сьвятароў увесьці польскую мову ў набажэнствы, "бо-ж тады польскі дух у іх ўвойдзе".

Агульна прынята, што Тадэвуш Касьцюшка браў удзел у амэрыканскай вайне за незалежнасьць выключна з ідэалягічных матываў. Можа так і было. Аднак чым вытлумачыць тое, што ён дамагаўся ад амэрыканскага ўраду аплаты запазычаньня за сваю працу? Звычайна людзі, якія ваююць з ідэалягічных матываў, не патрабуюць за гэта аплаты. Тут крыецца нейкая супярэчнасьць.

Тадэвуш Касьцюшка меў шмат вайсковых посьпехаў, але ня меў іх у дамскіх салёнах і ў жаніцьбе. У Польшчы ён закахаўся ў Людвіку Сасноўскую, дачку генэрала, разам зь якою ён хацеў уцячы. Натуральна, што бацька Людвікі, калі даведаўся аб гэтым, быў вельмі незадаволены. Убачыўшы злосьць генэрала, Т. Касьцюшка тады выехаў у Францыю.

Потым, ужо маючы 44 гады, ён закахаўся ў 18-гадовую дзяўчыну, але і гэтым разам бацька дзяўчыны ня даў згоды на шлюб.

Памёр Тадэвуш Касьцюшка 15 кастрычніка 1817 году ў Швайцарыі пасьля таго, як упаў з каня.

*Міхась ШВЭДЗЮК*





*Помнікі Тадэвушу Касьцюшку ў Бостане і Вашынгтоне.*









*Помнікі Т. Касьцюшку зьлева направа: у вайсковай акадэміі ў Вэст Пойнт, Санк-Пецярбургу ў Флёрыдзе, Філядэльфіі й Чыкага.*

## Канфлікт на маскоўскай дарозе

*Заканчэньне з бачыны 3*

рускую нацыянальную ідэю і Беларускае Адраджэньне. Некаторыя з такіх "дэмакратаў" займаюцца гэтым даўно.

Фальшывыя адносіны да Беларусі і незалежнасьці добра выяўлены ў наступных словах з заявы Казуліна: "Мы сваечасова не змаглі ацаніць сваю свабоду: у 1991 годзе мы яе, як і незалежнасьць краіны, атрымалі без барацьбы, быццам падарунак зь нябёсаў."

Вось у гэтым і ўся гнюснасьць такіх "дэмакратаў". Напляваць ім на ўсё нашае змаганьне, на ўсе лёсы нашых змагароў, якія яны – нашы героі – паклалі на алтар Беларусі, волі і незалежнасьці, начхаць ім на ўсю нашу нялёгкую барацьбу за незалежнасьць і на ўсё нашае пакаленьне, якое вярнула сабе і ўсім незалежную Беларусь, волю, мову і гісторыю, начхаць на ахвяры, на страты і пакуты і на вялікую нашую перамогу, якой можам ганарыцца ня толькі мы, яшчэ жывыя яе ўдзельнікі, але і ўся Беларусь. Ім напляваць. Яны паўтараюць рэжымныя лукашысцкія прыдумачкі для цяперашніх людзей, што "незалежнасьць звалілася зь неба". Але папярэдне лукашысты вытапталі ўсё, што можна, усе веды пра барацьбу Беларускага Народнага Фронту і пра вяртаньне незалежнасьці, пра гераічнае змаганьне дэпутацкай Апазыцыі БНФ у парлямэнце за свабоду і сувэрэнітэт Беларусі, ліквідавалі афіцыйную дакумэнтацыю, інфармацыю, друк і нават людзей, зацямнілі і замоўчалі яшчэ помныя і нядаўнія падзеі, наклалі табу на ўспамін аб нацыянальнай рэвалюцыі ў жніўні 1991 году, калі была вернутая незалежнасьць і аб наступным змаганьні.

Чаму такія людзі, як Казулін, паўтараюць цяпер гэтую прымітыўную антыбеларускую прапаганду пра незалежнасьць "без барацьбы" (за якую на справе цэлыя пакаленьні беларусаў аддалі тысячы жыцьцяў)? Яны-ж не маладзёны – ўсё памятаюць і ведаюць. А паўтараюць таму, што былі не на нашым, не на адраджэнскім баку. Бо падтрымлівалі расейскую КПСС ды ВЛКСМ, ды Маскву, ды Ельцына, ды КГБ, а некаторыя такія, як Лябедзька, Булахаў, Ганчар, Сініцын, Паўлаў і іншая партыйна-камсамольская намэнклятура (Фядута і т. п.) выступілі адкрыта супраць незалежнасьці і падтрымалі потым Лукашэнку.

Так што нічога дзіўнага ў фармулёўках Казуліна няма. Ён адпаведны сам сабе.

Што датычыць асобы грамадзяніна Казуліна і ягонага незаконнага асуджэньня на несувымерны тэрмін, то я цалкам далучаюся да тых, хто патрабуе ягонага вызваленьня і перагляду справы, выказваю спачуваньне ягонай сям'і.

Адказнасьць за помсьлівасьць, жорсткасьць і выкарыстаньне судовай машыны супраць гэтага чалавека нясе, безумоўна, Лукашэнка. Думаю, што прыйдзе час, і кожны адкажа за сваё. Судзімасьць з А. Казуліна будзе зьнятая, а пакуты кампэнсаваныя за кошт судоў і судзьдзяў, што тварылі беззаконьне.

У вольнай беларускай дэмакратычнай дзяржаве, перш за ўсё, будуць адноўленыя законнасьць і справядлівасьць. **Б**

# Весткі й Паведамленьні



ньюёркаўскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня

Viestki j Paviedamlenni

Belarusan American Association, Inc.

166-34 Gothic Drive, Jamaica, N.Y. 11432 Сусьветнае сеціва: www.baza-belarus.org № 10 (489)


# Верасьнёўскі сход аддзелу БАЗА ў Нью Ёрку

У нядзелю, 10 верасьня, адбыўся чарговы сход Нью-Ёркскага аддзелу БАЗА. Вёў сход сп. Валеры Дворнік. Напачатку ён заклікаў удзельнікаў ушанаваць чарговую гадавіну слаўнай перамогі войска Вялікага Княства Літоўскага пад Воршаю, якая адбылася 8 верасьня 1514 году. Слаўны прыклад нашых продкаў, якія баранілі нашую Айчыну ў мінулым, заўсёды павінен быць прыкладам для нас – іхных нашчадкаў.

Пасьля выступіў Старшыня БНФ Зянон Пазьняк. Ён распавёў пра ўзрастаючую небясьпеку незалежнасьці Беларусі, якая ўвесь час знаходзіцца пад пагрозаю з боку Расеі. Ён таксама адзначыў небясьпеку падпісаньня рознага роду дамоваў пра аб'яднаньне з Расеяй, бо гэтыя дамовы хоць і не выконваюцца цяпер, але ў любы момант могуць быць выкарыстаныя Расеяй для правядзеньня яе злачыннай палітыкі паглынаньня Беларусі. Лідэр БНФ падкрэсьліў, што стварэньне "саюзаў" – гэта небясьпечная авантура, пад якую ўжо створаныя структуры, такія як парлямэнцкі сход і ўрад так званай "саюзнай дзяржавы".

Апошнім часам агучваецца ідэя так званага "канстытуцыйнага акту", які зьяўляецца працягам ажыцяўленьня імпэрскіх плянаў Крамля. Было асабліва падкрэслена пасьлядоўнае руйнаваньне бандаю Лукашэнкі падставаў нацыянальнага існаваньня Беларусі, роспуск рэдакцыі Беларускай энцыкляпэдыі, зьнішчэньне нашае мовы. На думку сп. Пазьняка, мы павінны зьвяртацца да краінаў - гарантаў сувэрэнітэту Беларусі: Злучаных Штатаў Амэрыкі й Вялікабрытаніі. Тым больш што трэці гарант сувэрэнітэту, Расея, парушае ўзятыя на сябе гарантыі. (У 1994 годзе Беларусь пагадзілася перадаць ядзерную зброю Расеі ўзамен на міжнародныя гарантыі яе сувэрэнітэту з боку трох краінаў: ЗША, Вялікабрытаніі й Расеі.)

Наступным да прысутных зьвярнуўся Сакратар Кансысторы БАПЦ Барыс Данілюк. Ён заклікаў усіх падтрымаць Беларускі фэстываль, які павінен быў адбыцца 17 верасьня ў царкве Сьв. К. Тураўскага ў Брукліне.

Сп. Данілюк нагадаў, што 17 верасьня 1939 году савецкія войскі далучылі Заходнюю Беларусь да БССР, узьяднаўшы нашыя этнічныя зямлі, але зроблена гэта было па-драконаўску, мы страцілі Вільню, трохі пазьней Беласток. "Ад леташняга сьнегу, залежыць сёньняшні ўраджай! З 17 верасьня вынікае нашая доля, і мы апынуліся ў Амэрыцы, - прыгожа сказаў др. Рагуля пра старэйшую хвалю эміграцыі."

На заканьчэньне сходу перад прысутнымі выступіў іміграцыйны адвакат кубінскага паходжаньня, які распавёў пра сваю прафэсійную дзейнасьць і дапамогу на гэтай ніве палітычным азылянтам зь Беларусі. Прысутныя студэнты міжнародных адносінаў БДУ (зь Беларусі) атрымалі выдатную магчымасьць папрактыкавацца ў гішпанскай мове.

Па заканчэньні афіцыйнай часткі сходу моладзь атачыла сп. Пазьняка з пытаньнямі ад мінулым і будучым Беларусі. Такая зацікаўленасьць нашых студэнтаў з прэстыжных унівэрсытэтаў лёсам Беларусі яшчэ раз пераконвае, што БЕЛАРУСЬ БУДЗЕ ЖЫЦЬ!

***Мікалай ЦІМАШЭНКА***

# І сказаў Бог беларусу...

1. І сказаў Бог беларусу: Я стварыў цябе паводле вобразу і падабенства Майго, удыхнуў у цябе дыханьне жыцьця і зрабіў цябе душою жывою.

2. Я даў табе розум, і волю, і працавітасьць, каб ты карыстаўся імі дзеля дабра бліжніх сваіх.

3. Прыглядайся да навакольля. Бач, як стварэньні Мае множацца паводле роду іхняга: усякае быльлё, кустоўе, дрэвы, усякая рыба, жывёла й птушка крылатая, і плямёны людзкія – усё працягваецца паводле роду іхняга.

4. У разнастайнасьці прыроды – Мая сутнасьць. Будзь верны ёй, ствары паводле роду свайго і будзеш дабраславёны за гэта.

5. Я ўдыхнуў у цябе здольнасьць называць рэчы й зьявы сваімі імёнамі, каб захоўвалася повязь паміж табой і тваімі нашчадкамі.

6. Нашчадкі будуць тваім замагільным жыцьцём, будуць перахоўваць тваю вечнасьць.

7. Рух і тварэньне – існасьць усяго жывога. У руху і тварэньні ты будзеш апраўдваць сваё існаваньне, свой боскі пачатак.

8. Я даў табе табе жанчыну як спадарожніцу на тваім зямным шляху.

9. Вы й дзеці вашы будзеце працягваць Маю працу – тварыць паводле вобразу і падабенства вашага. І зямля ваша будзе ў дастатку.

10. Тое, што вы створыце, будзе вашым Эдэмам, у якім Я пастаўлю дрэва жыцьця, каб квітнеў і ня зьвёўся род ваш.

11. Закладаю ў вас энэргію і творчы талент, каб вы ўзбагачалі Маё тварэньне. Вы будзеце ўнікальныя ў Маім шматстайным сьвеце і будзеце адказныя за захаваньне шматстайнасьці.

12. Узнагародай вам за вернасьць Маім запаветам будзе радасьць творчай працы і быцьцё працягам Мяне Самога.

***Вычытаў зь Біблії Янка ЗАПРУДНІК***
***У верасьні лета Божага 2006***

Уплаты ў Нью Ёрскі аддзел БАЗА дасылайце на адрас:
*Sergei Petrovich*
*115 Ave. S apt. 9*
*Brooklyn, NY 11223*
Чэкі выпісвайце на *Belarusan American Association*.

## Увага! Наступны сход

ньюёркскага аддзелу БАЗА адбудзецца ў нядзелю, **8 кастрычніка 2006 году** ў грамадзкай залі пры Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага па адрасу:
***401 Atlantic Avenue ў Брукліне***
Пачатак сходу апаўдні. Запрашаем усіх жадаючых. Даезд цягнікамі падземкі **A, C** да станцы **Hoyt-Shermerhorn Street** або цягніком **F** да станцыі **Bergen Street**.

# Дзень Беларускай Вайсковай Славы

У кожнага эўрапейскага народу акрамя агульных сьвятаў, такіх як Каляды, Вялікдзень альбо Новы год, ёсьць яшчэ й свае нацыянальныя. Яны адзначаюцца ў гонар вельмі знакавых падзей у гісторыі кожнага народу: Дзень Незалежнасьці, Дзень Рэвалюцыі, Дзень Канстытуцыі, Дзень Перамогі і гэтак далей.

У беларусаў, хто лічыць сябе такімі ня толькі па пашпарту, але й па духу, такое найвялікшае сьвята – Дзень Волі 25 Сакавіка, якое адзначаецца ў гонар абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.

Напрыканцы 80-х гадоў мінулага стагодзьдзя сьвядомыя беларусы пачалі адзначаць 8 верасьня як Дзень Беларускай Вайсковай Славы. У гэты дзень на рацэ Крапіўне, каля Воршы, у далёкім 1514 годзе войскі Вялікага Княства Літоўскага пад кіраўніцтвам гэтмана Канстанціна Астрожскага разьбілі ўшчэнт навалу Маскоўскага княства, якое спрабавала зьняволіць нашую старажытную дзяржаву. У гэты дзень было ўпершыню прыпынена пераможнае шэсьце ўладароў Масковіі па захопу земляў сваіх суседзяў: Разані, Цьверы, Вялікага Ноўгараду. Нарэшце, за некалькі гадоў да ўзгаданай сечы, настала чарга й Вялікага Княства Літоўскага. Напачатку маскоўцы захапілі Бранск, Смаленск і іншыя гарады, а потым іхняе войска рушыла ў глыб нашай краіны, каб канчаткова яе зваяваць.

Які лёс чакаў наш народ, калі-б ваяры Астрожкага не перамаглі? Верагодна, напаткаў-бы нас лёс Вялікага Ноўгараду, які быў пераможаны маскоўцамі ў 1478 годзе. Да захопу гэта быў адным з найбольшых ва Ўсходзе Эўропы квітнеючых гарадоў, цэнтар гандлю і рамёстваў, пісьменства і культуры, горад старажытнай Сафіі ды іншых прыгожых храмаў... Магчыма, неўзабаве там зьявіліся-б унівэрсытэты, тэатры, цудоўныя палацы...

Аднак, пасьля зваяваньня, развіцьцё наўгародзкай зямлі спынілася, а вольных наўгародцаў праз 90 гадоў напаткаў жахлівы лёс. Маскоўскі цар Іван Жахлівы разам з ягонымі памагатымі абрабавалі горад, закатавалі, згвалцілі, забілі тысячы гараджанаў. Наўгародзкая зямля пасьля гэтага больш ніколі не адрадзілася. Дарэчы, у праграмах савецкіх школаў пра гэтую бойню не было ніякіх згадак. Ня маю сумневу, калі-б такое злачынства зьдзейсьнілі манголы, швэдзкія альбо польскі каралі, пра гэта напісалі-б у падручніках зь першай і па апошнюю клясу. Зараз Ноўгарад - звычайны расейскі правінцыйны горад, акружаны выміраючымі вёскамі. І толькі старыя муры нагадваюць пра мінулую веліч.

Нажаль сьвята Вайсковай Славы ніяк не адзначаецца афіцыйна ў Беларусі. Калі дзе і ёсьць згадкі, дык толькі як аб "правакацыі нацыяналістаў", якія хочуць пасварыць беларускі народ з братэрскай Расеяй. Але давайце паглядзім на Бэльгію, а дакладней на частку гэтай фэдэратыўнай дзяржавы - Фляндрыю. Калі ў флямандцаў пачаўся адраджэнскі рух, дык яны выбралі за нацыянальнае сьвята дату 11 ліпеня – у гонар перамогі мясцовага паспалітага рушэньня над французкімі рыцарамі ў знакамітай бітве Залатых шпораў, якая адбылася аж у 1302 годзе! І нічога, ніхто не пакрыўджаны, жывуць разам з франкамоўнымі валёнцамі ў адной краіне.

І галоўнае. Калі-б не было слаўнай перамогі 8 верасьня на крывавых берагах Крапіўны, ніхто-б ня ўспомніў пра краіну Беларусь у сакавіку 1918 году.

# Нашая фанатэка

## Песьні Свабоды”: музычнае адлюстраваньне новага часу




Да тэмы музыкі і яе ўздзеяньня на душы слухачоў зьвярталіся многія пісьменьнікі й філёзафы. Адзін з тых, хто найбольш дакладна, на мой погляд, вызначыў філязофскі бок пытаньня быў беларускі паэт Максім Багдановіч, які ў сваім апавяданьні “Музыка” (Поўны збор твораў, том II, с. 6) ў сымбалічнай форме асэнсаваў мэту музычнай творчасьці. Калі Максім распавядаў пра лёс музыкі, які так граў, што “людзі падымалі апушчаныя галовы”, абавязкова падкрэсьліваў, што ён “граньнем сваім будзіў ад цяжкага сну.”

Абуджаць ад “цяжкага сну” нацыянальнага нігілізму, бяздумнасьці і сацыяльнай пасіўнасьці маладых беларусаў узялася разам з іншымі маладзёвымі рухамі і вядомае ўжо незалежнае выдавецтва *VoliaMusic*. Першым ягоным выданьнем стала кружэлка “Песьні Свабоды”, наклад якой быў распаўсюджаны сярод моладзі па падпісцы і падчас веснавых падзеяў сёлета. Пра папулярнасьць гэтага выданьня сярод моладзі сьведчыць той факт, што музычныя кампазыцыі з дыска “Песьні Свабоды” былі спампаваныя ў інтэрнэце больш чым 50 тысячы разоў. Пра гэты ўражваючы факт паведаміў прадстаўнік выдавецтва на прэс-канфэрэнцыі, што адбылася ў штаб-кватэры Партыі БНФ. Імжа было адзначана, што гэты посьпех натхніў выдаўцоў *VoliaMusic* ажыцьявіць працяг працы – выдаць дыск “Песьні Свабоды-2”.

Праграму згаданай кружэлкі вырашана было распачаць экспрэсіўным гітом “Час прыйшоў” у выкананьні ўкраінскага гурту “De Shifer” – героў мінулай “памаранчавай рэвалюцыі”, што так ўскалыхнула ўсю Ўкраіну. Трэба адзначыць, што беларускамоўны тэкст у выкананьні ўкраінскіх музыкаў гучыць вельмі чыста, арганічна. Словы ягоныя простыя, але ёмістыя па сваім пасыле да слухачоў:

*Я прабіў непрабіўныя сьцены,*
*Прабіваць буду зноў і зноў:*
*Час прыйшоў, час прыйшоў!*

Песьня гурту “De Shifer” – выдатны прыклад салідарнасьці паміж украінскімі і беларускімі музыкамі.

На “Песьнях Свабоды-2” дэбютавалі пэрспэктыўныя выканаўцы беларускамоўнага гіп-гопу – “KROU” і “Імпэратар”, што супрацоўнічаюць у рэп-камандзе “Cyrvonym pa Bielym”. Кампазыцыя “KROU” “Крывавы сакавік/ Зоры”, а таксама рэп “Імпэратара” “Уздымайце запальніцы” – узор таго шляху, па якім сёньня пайшлі беларускамоўныя гіп-гоп-выканаўцы. Радасна, што ў Беларусі зьяўляюцца таленавітыя чытальнікі рэпу і тое, што беларускія выканаўцы гэтага кірунку імкнуцца сьмела адгукнуцца на тыя падзеі, што адбываюцца ў краіне. Але разам з гэтым хацелася-б, каб вулічныя рыфмы ў гэтых выканаўцаў былі ня толькі цьвёрдымі, але і не супярэчылі законам роднай мовы. А для гэтага трэба больш ашчадна адносіцца да Слова. Да таго-ж, не заўсёды апраўдвае сябе стыль выкананьня, які можна было-б назваць “стылем чужаніцы”. Відавочна, што некаторым часткам кампазыцыяў не хапае эмацыянальнага напалу, які-б пасаваў да ізняга тэксту.

З навінак, што прадстаўленыя на дыску “Песьні Свабоды-2”, слухачам будзе цікава пазнаёміцца зь песьняй вядомага менскага музыкі Андрэя Плясанава (гурт “P.L.A.N.”) “Успамін пра будучыню”, у якой ён разам з аўтарам тэксту Вітаўтам Мартыненкам намалявалі ідэальную Беларусь будучыні, ў якой знойдзецца месца і мове, і культуры, і гісторыі роднага краю. У цяперашняй краіне – гэта толькі мары, і аўтары разумеюць становішча:

*А пакуль, а пакуль тут пустэча глухая,*
*Не чуваць роднай мовы ні ў дзень, ні ў начы,*
*Тут на глебе ўрадлівай народ галадае,*
*А жанчыны ня плачуць з-за плачу мужчын.*

Па музычнай мове “Успамін пра будучыню” – унутрана вельмі напружаная, хоць вонкава лірычна-акустычная кампазыцыя. Гэта спрыяе таму, што песьня робіцца блізкай многім слухачам.

Такой-жа блізкай і зразумелай, як і песьня Л. Вольскага “Ворагам” на геніяльныя вершы клясыка беларускай літаратуры Ўладзімера Караткевіча. Лявон Вольскі расставіў сэнсавыя і мэлядычныя акцэнты так, што ў песьні зноў на ўсю моц загучала тэма аптымізму, якога так не стае нашаму грамадзтву ў гэты няпросты для краіны час.

Акустычную частку альбому дапаўняе музычна-сатырычная замалёўка Андрэя Хадановіча “Вожык-патрыёт” на знакамітую мэлёдыю Джона Ленана і Пола Макартні “Yellow submarine”. Пра адметнасьць гэтай вясёлай песенькі мне ўжо даводзілася весьці гаворку ў рэцэнзіі на дыск “Партызанская школа”, што быў запісаны і выдадзены навучэнцамі Нацыянальнага гуманітарнага ліцэю імя Я. Коласа.

Зусім іншую эстэтыку моладзёвага супраціву адлюстроўваюць беларускія гурты экстрымальнага кірунку. І гэтую частку праграмы дыска “Песьні Свабоды-2” распачынае гурт “Нейра Дзюбель”, што прадставіў на ім сваю кампазыцыю “Край”. Слухачоў заўсёды захапляла парадаксальнасьць тэкстаў гэтага панк-гурту, праз якія бачны шырокі філязофскі погляд музыкаў на супярэчлівыя зьявы жыцьця. Але тут, бадай, упершыню ў сваёй творчасьці, “Нейра Дзюбель” і ягоны лідэр Аляксандар Кулінковіч так шырока асэнсавалі філязофскую катэгорыю асабістай свабоды ў рэчышчы свабоды роднай Беларусі.

Адрэналінавы моладзёвы напал слухачы адчуюць ў самых экстрымальных кампазыцыях дыска, якія прадставілі слухачам сталічны гурт “SOK” – “Менск – горад свабоды!” і магілёўскі гурт “Таварыш Маўзэр” – “Беларусь будзе вольнай!” Калі для першага з названых гуртоў – гэта дэбютная спроба ў плыні беларускамоўнай творчасьці, то пераможца “Басовішча-2005” гурт “Таварыш Маўзэр” добра вядомы слухачам вастрынёй тэкстаў і магутнасьцю “цяжкага” гучаньня. З адметнасьцяў згаданых кампазыцыяў адзначу, што гурт “SOK” мае ў сваім складзе двух бубначоў, якія надаюць гучаньню разнастайны рытмічны малюнак. А вось гурт “Таварыш Маўзэр” на запіс песьні “Беларусь будзе вольнай!” запрасіў былую салістку гурту “Тарпач” Сьвятлану Сугаку, якая дадала экспрэсіі да вакальных партыяў у гэтай песьні.

Мякчэйшы па гучаньню гурт “Siver” уносіць сваю бонду ў трохі несвоечасовую спрэчку наконт таго, якой па колеру павінна быць будучая беларуская рэвалюцыя. І мае свой адказ – “Колер маёй рэвалюцыі – белы!” Гэты колер у музыкаў асацыюецца з чысьцінёй пачуцьцяў, з колерам першага каханьня, з маладосьцю і воляй. Можна зразумець маладых музыкаў!

Такія вядомыя беларускія выканаўцы як “ZET” і “:B:N:” прадстаўленыя кампазыцыямі “Белакрылы анёл” і “Цягнік” з толькі што выдадзеных імі альбомаў – адпаведна “radzima.com” і “Zyvie rock-n-roll!” Вылучаюцца яны з усяго трэк-ліста “Песень Свабоды-2” яркім мэлядызмам. Ён падкрэслівае драматызм сёньняшняй беларускай сытуацыі, якая нараджае трагічныя пытаньні, кшталту: */дзе той, хто здыме насланьнё, /дзе падзеўся белакрылы наш анёл?/* (“ZET”), ці */ няўжо не адкрыем мы вочы, / няўжо не ўстанем з кален?/* (:B:N:).

Асаблівы падарунак слухачам – нізка вядомых і папулярных кампазыцый беларускага року мінулых гадоў. Мяркуйце самі: “Наша ўскраіна” “Мясцовага часу”, “Пляц Францыска” гурта “ЎЛІС”, “Ліст да сястры” “Новага неба”, “Будзь разам з намі” “Крамы”, “Я нарадзіўся тут” Зьмітра “Тодара” Вайцюшкевіча – гэта ня толькі вядомыя многім маладым беларусам гіты, але і “залатая скарбонка” беларускага року, ягоная гісторыя ў песьнях...

Калі Максім Багдановіч у сваім “Музыку” распавядаў пра тое, як галоўны герой апавяданьня “*граньнем сваім будзіў ад цяжкага сну*”, дык каб падкрэсьліць экспрэсію выкананьня, паэт выкарыстоўваў наступныя словы: “*...музыка быццам вырастаў ў вачах людзей і тады граў моцна, гучна: гудзяць струны, бас, як гром, гудзіць і грозна будзіць ад сну...*” Упэўнены, што наш нацыянальны геній не зьдзівіўся-б, калі трапіў на адну з плошчаў Менску, дзе адбылася live-прэзэнтацыя “Песень Свабоды-2”, якая была прысьвечаная 15-м угодкам наданьню канстытуцыйнай моцы Дэклярацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі. Бо на гэтым канцэрце быў чутны сапраўдны гул струнаў, баса і бубнаў па ўсім Менску: каля 10 тысяч слухачоў воплескамі, воклічамі “Жыве Беларусь!”, бел-чырвона-белымі сьцягамі віталі выканаўцаў, сярод якіх былі знакамітыя і маладыя гурты “Крама”, “Нейра Дзюбель”, “P.L.A.N.”, “Band A”, “Таварыш Маўзэр”, “Pomidor /OFF” і, зразумела, куміры беларускай прагрэсыўнай моладзі – гурт “N.R.M.” Большасьць песень, што прадстаўленыя на дыску “Песьні Свабоды-2”, слухачамі сьпяваліся разам з выканаўцамі, агульным шматтысячным хорам. І гэта ўражвала арганізатараў і палохала тых, хто прыйшоў на плошчу не па сваёй волі. Асабліва, калі гурт “N.R.M.” засьпяваў гімн сёлетніх веснавых падзеяў – песьню “Усё роўна мы пераможам” (“Гадзючнік”). Дарэчы, відэакліп на гэтую кампазыцыю прадстаўлены на дыску “Песьні Свабоды-2”, таксама, як і кліп на рэп-камазыцыю “Не!” удзельнікаў “Партызанскай школы”.



*На канцэрце “Песьні Свабоды” 25 жніўня выступаў гурт N.R.M. Здымак аўтара.*

І хоць на канцэрце пільныя людзі ў цывільным патрабавалі ад слухачоў і выканаўцаў згарнуць нацыянальныя сьцягі, ніхто іх не хаваў, проста сьцягі ўскладваліся на плечы, але калі на заканчэньні канцэрту загучала песьня “N.R.M.” “Лёгкія-лёгкія”, ніхто ўжо ня змог утрымаць маладых людзей: бел-чырвона-белыя сьцягі вольна залуналі над Менскам ізноў, а воклік “Жыве Беларусь!” яшчэ доўга не сьціхаў над вечаровым горадам...

Розгалас ад гэтага канцэрту-прэзэнтацыі быў такі магутны, што некаторыя іншыя музыкі не змаглі ўстрымацца ад аналягічных дзеяньняў. Так праз два дні на канцэрце вядомага швэдзкага гурта “The Cardigans”, ягоная салістка Ніна Пэрсан на разьвітаньне таксама выгукнула ў залю “Жыве Беларусь!” На што заля адказала адным выбухам з грудзей: “Жыве!” Тут успомніліся заключныя радкі апавяданьня М. Багдановіча “Музыка”: “*...выйдуць дзесяткі новых музыкаў і граньнем сваім будуць будзіць людзей к сьвету, праўдзе, брацтву і свабодзе.*”

**Анатоль МЯЛЬГУЙ,**
**музычны аналітык**

# Лятарэя грынкартаў ЗША DV-2008

У кастрычніку пачынае дзейнічаць чарговая лятарэя грынкартаў DV-2008. Простыя, але строгія правілы гэтай праграмы дазваляюць прыехаць на сталае месца жыхарства ў Злучаныя Штаты Амэрыкі асобам з краінаў зь невысокім узроўнем эміграцыі ў ЗША.

Сёлета на маюць права ўдзельнічаць у лятарэі асобы, народжаныя ў наступных краінах: Бразыліі, Канадзе, Кітаі (матарыковай часткі), Калюмбіі, Дамініканскай Рэспубліцы, Сальвадоры, Гаіці, Індыі, Ямайцы, Мэксіцы,Пакістане,Філіпінах, Пэру, Польшчы, Расеі,Паўднёвай Карэі, Злучаным Каралеўстве (Вялікабрытаніі) і яе тэрыторыях за выключэньнем Паўночнай Ірляндыі., а таксама Віетнаме.

Ад 2005 году Дзяржэпартамэнт выкарыстоўвае электронную рэгістрацыю з мэтаю зрабіць лятарэю больш эфэктыўнай і бясьпечнай. Таксама выкарыстоўваюцца адмысловыя тэхналёгіі для выкрыцьця ашуканства з мэтаю іміграцыі й тых асобаў, хто дасылае больш за адную заяву.

### Пэрыяд рэгістрацыі

Заявы на ўдзел у DV-2008 павінны быць дасланыя электронна ў любы час паміж 12 гадзінай папаўдні (EDT) 4 кастрычніка 2006 году і 12 гадзінай папаўдні (EDT) 3 сьнежня 2006 году. Доступ да запаўненых заявы падчас пэрыяду рэгістрацыі можна знайсьці па адрасу: **www.dvlottery.state.gov** Заявы, дасланыя поштаю, прымацца ня будуць.

### Патрабаваньні

- Каб узяць удзел у лятарэі, трэба быць народжаным у краіне, ураджэнцам якіх дазволена дасылаць заявы. Але ёсьць яшчэ два шляхі, якія дазваляюць узяць удзел у лятарэі. Першы, калі вы нарадзіліся ў адной з краінаў, пералічаных вышэй, але ваш(-ая) муж (жонка) нарадзіліся ў краіне, ураджэнцам якой дазволена браць удзел у лятарэі. Другі, калі вы ня маеце права браць удзел у лятарэі, але ніводны з вашых бацькоў ня быў народжаны ў краіне вашага нараджэньня, тады вы можаце напісаць краіну нараджэньня аднаго з бацькоў, калі ўраджэнцы той краіны маюць права на ўдзел у лятарэі.

- Каб даслаць заяву вам трэба мець сярэднюю адукацыю альбо яе эквівалент, альбо мець два гады працоўнага досьведу на працоўным месцы, якое патрабуе два гады вучобы альбо практыкі.

### Дасыланьне заявы

- Дзяржэпартамэнт будзе прымаць толькі заявы, дасланыя электронна падчас пэрыяду рэгістрацыі.

- Усе заявы ад адной і той-жа асобы будуць дыскваліфікаваныя, калі будзе атрымана больш чым адна зь іх. Заяву можна запаўняць самаму ці папрасіць нейкага зрабіць гэта за вас.

- У выніку пасьпяховай рэгістрацыі на экране зьявіцца пацьверджаньне, у якім будзе вашае імя, дата нараджэньня, краіна, і час падачы заявы.

- Вашая заява будзе дыскваліфікаваная, калі ня будуць прыкладзеныя ўсе патрэбныя фатаздымкі. Да заявы неабходна дадаць нядаўнія фатаздымкі наступных асобаў: вас, вашай жонкі (мужа), кожнага дзіцяці не старэйшага 21 году, у тым ліку ўсыноўленых дзяцей, нават калі вы цяпер зь імі не жывеце;

Ня трэба дасылаць фатаздымкі дзяцей, калі яны ўжо зьяўляюцца грамадзянамі ці сталымі жыхарамі ЗША.

Групавыя здымкі не прымаюцца, трэба дасылаць асобны здымак кожнай асобы.

Лічбавыя фатаздымкі павінны быць прыкладзеныя падчас запаўненьня заявы на інтэрнэце. Іх можна зрабіць з дапамогаю лічбавай фатакамэры ці адсканаваўшы папяровыя здымкі.

Падрабязьнейшыя патрабаваньні да фатаздымкаў можна паглядзець на інтэрнэце па адрасу: **www.dvlottery.state.gov**

### Заява

Існуе толькі адзін шлях падачы заяваў – яе трэба даслаць электронна. Тым, хто будзе запаўняць заяву, трэба будзе падаць наступныя зьвесткі:

- ваша поўнае імя;
- дату нараджэньня;
- пол;
- горад, дзе нарадзіліся;
- краіну, дзе нарадзіліся;
- далучыць усе патрэбныя фатаздымкі;
- паштовы адрас;
- краіну, дзе вы жывеце цяпер;
- нумар тэлефона (калі хочаце);
- е-мэйл адрас (калі хочаце);
- узровень адукацыі;
- сямейны стан;
- колькасьць дзяцей;
- інфармацыю пра жонку (мужа);
- інфармацыю пра дзяцей;

### Адбор пераможцаў

Асобы пераможцаў зь ліку тых, хто даслаў заявы, будуць адвольна выбраныя кампутарам. Ім будзе паведамлена аб гэтым у траўні-чэрвені 2007 году і дасланая інфармацыя аб далейшых дзеяньнях. Візы праграмы DV-2007 будуць выдавацца з 01.10.2007 году да 30.09.2008 году.

**Важная заўвага.** Дасыланьне электроннай заявы не вымагае ніякай аплаты. Урад ЗША не ўпаўнамочваў ніякіх кансультантаў для правядзеньня гэтай лятарэі. Любыя юрыдычныя ці прыватныя асобы, якія прапануюць дапамогу ў падрыхтоўцы заяваў на лятарэю, дзейнічаюць без ніякіх паўнамоцтваў ад ураду ЗША.

Усе прынятыя да ўдзелу ў лятарэі заявы: дасланыя самым заяўнікам ці нанятымі ім асобамі, маюць роўныя магчымасьці быць выбранымі. На гэта не ўплываць ні месца, адкуль была дасланая заява, ні час, калі яе даслалі, калі ён будзе у межах пэрыяду рэгістрацыі.

Поўны тэкт інструкцыі для ўдзелу ў DV-2008 можна знайсьці па адрасу: **http://travel.state.gov/pdf/DV_2008_Final.pdf**

## Вынікі лятарэі грынкартаў DV-2007

Консульскі цэнтар у штаце Кентакі зарэгістраваў і разаслаў паведамленьні пераможцам лятарэі грынкартаў DV-2007. Цяпер яны могуць афармляць дакумэнты на атрыманьне іміграцыйных візаў. Колькасьць пераможцаў, які атрымалі лісты, была прыкладна 82 000 з увагі на тое, што ня ўсе зь іх змогуць давесьці справу атрыманьня візаў да канца. Гэтая большая лічба дазволіць выдаць усе 50 000 візаў, якія павінны быць выданыя ў 2007 годзе па гэтай праграме.

Пераможцы DV-2007 былі выбраныя з больш як 5,5 мільёнаў заяваў, пададзеных з 5 кастрычніка да 4 сьнежня 2005 году. Візы былі падзеленыя паміж шасьцю геаграфічнымі рэгіёнамі, і максімальная колькасьць візаў, выдадзеная асобам з адной краіны, ня перавышае 7% ад агульнай колькасьці. Пераможцы лятарэі павінны дзейнічаць хутка і даслаць усю патрэбную інфармацыю. Як толькі агульная колькасьць выдадзеных візаў дасягне 50 000, праграма DV-2007 будзе закончаная. Пераможцы, якія не атрымаюць візы да 30 верасьня 2007 году потым ужо ня змогуць іх атрымаць. Тыя самыя ўмовы адносяцца да іх сямейных.

Найбольшую колькасьць візаў сярод эўрапейскіх краінаў атрымае Ўкраіна 7205. На другім і трэцім месцах Альбанія 1988 і Баўгарыя 1674. Беларусы атрымаюць 705 візаў. Асобы народжаныя ў Польшчы й Расеі летась удзельнічаць у лятарэі не маглі, бо гэтыя краіны і так маюць досыць высокі ўзровень эміграцыі ў ЗША. Бліжэйшыя суседзі Беларусі Летува і Латвія атрымаюць адпаведна 298 і 75 візаў.

Тыя асобы, якія бралі ўдзел у DV-2007, але ніякіх паведамленьняў не атрымалі, пераможцамі выбраныя не былі. Калі пажадаюць, яны могуць узяць удзел у DV-2008, умовы якой надрукаваныя вышэй.

## Адольф СУБОТА
### (05.02.1925 - 19.09.2006)



Беларуская грамада ў Нью Джэрзі страціла аднаго з сваіх старэйшых патрыётаў – на 82-м годзе жыцьця адыйшоў у лепшы сьвет Адольф Субота.

Ён быў па-хрысьціянску вельмі простым і сьціплым у жыцьці, але пры гэтым нічога не шкадаваў ні для грамадзкай дзейнасьці, ні для тых, каму хацеў у нечым дапамагчы.

Адольф нарадзіўся на Валожыншчыне. Зь дзяцінства яму найбольш запомніўся вясковы каваль, да якога прыходзілі сяляне з сваімі праблемамі, ды кузьня, у якой выраблялася неабходныя ў гаспадарцы інструмэнты. Магчыма, ад таго каваля ён навучыўся чуласьці да іншых.

Пад польскай акупацыяй ён скончыў пачатковую школу. У час вайны быў паранены, а пасьля вайны апынуўся ў Бэльгіі. Там ён уладкаваўся працаваць на фабрыку, дзе навучыўся правіць гадзіньнікавыя мэханізмы. Пазьней, у 1954 годзе, ажаніўся з Катрынай Костас зь Кельну.

У 1957 годзе яны ўдвох прыехалі ў Амэрыку і пасяліліся ў беларускім асяродку ў Саўт Рыверы. З таго часу Адольф далучыўся літаральна да кожнай існуючай беларускай арганізацыі: быў сябрам Рады БНР, уваходзіў у вэтэранскую арганізацыю, быў сябрам аддзелу БАЗА ў Нью Джэрзі, рэгулярна наведваў і падтрымоўваў Беларускую Аўтакефальную Царкву. Сярод беларускай грамады хутка даведаліся пра залатыя рукі Адольфа – ён рамантаваў гадзіньнікі й пярсцёнкі і мог паправіць тое, што здавалася ўжо безнадзейна зламаным.

У пачатку 90-х ён адным зь першых адважыўся адведаць Беларусь і актыўна падтрымаў яшчэ малады у той час Беларускі Народны Фронт.

Адпяваньне нябожчыка адбылося 21 верасня ў Царкве Жыровіцкай Божай Маці ў Гайленд Парку. Абрад пахаваньня на беларускіх могілках у Іст Брансуіку выканаў айцец Вячаслаў Логін.

Вечная памяць!

## Адольф ГУБЭРТ
### (20.09.1922 - 29.08.2006)



Пасьля цяжкой хваробы на 84 годзе жыцьця адыйшоў на вечны спачын сьв. памяці Адольф Губэрт.

Нарадзіўся Адольф у вёсцы Горбач на Любаньшчыне ў сям'і Антона і Аляксандры Губэрт.

У 1944 годзе немцы спалілі родную вёску Губэртаў, а іх сям'ю ды іншых аднавяскоўцаў вывезьлі ў Аўстрыю. Там пасьля вайны малады юнак закахаўся і ажаніўся з украінкай Раісай Плюжнік. У 1948 годзе сям'я Губэртаў эміґравала ў Аргэнтыну, а пазьней, у 1959 годзе, надарылася магчымасьць пераехаць ў ЗША.

На новым месцы Адольф з жонкаю сталі актыўнымі й шанаванымі ўдзельнікамі свайго рэлігійнагрaмадзкага асяродку. Адольф быў адным з найактыўнейшых будаўнікоў царквы Сьв. Кірыла Тураўскага ў Рычманд Гіл, Нью Ёрк. А потым стаў не добрым прыхажанінам і шчырым ахвярадаўцам. З сакавіка 2002 па красавік 2005 году быў абраны Старшынём царкоўнай управы, але потым стан здароўя не дазволіў яму даўжэй заставацца на гэтай пасадзе. Апошні год Адольф вельмі моцна хварэў.

Адпяваў сьв. памяці Адольфа Губэрта айцец Васіль Андрэюк у царкве Сьв. Кірыла Тураўскага ў Рычманд Гіл. А пахавалі яго на беларускіх могілках у Іст-Брансуіку, Нью Джэрзі.

У вялікім суме пакінуў жонку Раісу, трох сыноў і сястру Ганну.

Вечная яму памяць!

***Васіль ШЧЭЦЬКА***

# Да гісторыі ангельска-беларускага слоўніка

Свой пачатак гэты слоўнік бярэ з картатэкі ангельскіх словаў і беларускіх перакладаў, якую склала сьв. пам. Валентына Пашкевіч, шматгадовая настаўніца беларускай мовы. Картатэка была вынікам ейнай працы над падручнікам “Fundamental Byelorussian. Беларуская мова”. Падручнік выйшаў у дзьвюх частках у Таронта (Канада), дзе жыла аўтарка – першая частка ў 1974 годзе, а другая ў 1978-м. Кожная кніга мела беларуска-ангельскі й ангельска-беларускі слоўнікі (vocabularies): у першай кнізе налічвалася адпаведна 9.256 і 7.650 слоўнікавых артыкулаў, а ў другой, адпаведна — 5.128 і 4.411. Рэдагаваў абедзьве кнігі сьв. пам. Антон Адамовіч. Яны носяць на сабе сьляды моўнага выбару аўтаркі й рэдактара.




У прадмове да падручніка сказана: “Пры складаньні кнігі “Беларуская мова” за аснову ўзятая граматыка Браніслава Тарашкевіча, цібо тая, што была падставаю для ўсіх іншых граматыкаў (у іх ліку і граматыкі Язэпа Лёсіка) на прасторы ўсёй Беларусі да савецкае рэформы 1933 году” (кн. 1, ст. IУ). Той самы правапісны прынцып (зь некаторымі адхіленьнямі) рэдакцыя захавала і ў гэтым слоўніку.

Падручнік “Fundamental Byelorussian. Беларуская мова” выйшаў за грошы, ахвяраваныя беларускім грамадзтвам ды з канадыйскай дзяржаўнай дапамогай. Былі спадзяваньні на фінансаваньне з тае самае крыніцы выданьня й ангельска-беларускага слоўніка, але яны не збыліся. Картатэка засталася нявыкарыстанай. У 1987 годзе спн. Пашкевіч перадала яе супрацоўнікам Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку, Вітаўту й Зоры Кіпелям – усіх недзе каля 20 тысячаў картак (рознага памеру). На некаторых было зьмешчана па два-тры ангельскія словы зь беларускім перакладам. Сьв. пам. Зора Кіпель перапісала ўсе карткі большага фармату на меншыя – так, каб на кожнай было па адным ангельскім слове. А Вітаўт, які ў тым часе працаваў у Нью Ёрскай Публічнай Бібліятэцы, быў таксама вольным супрацоўнікам Беларускай рэдакцыі радыё “Свабода” (якая знаходзілася паблізу), зрабіў на ксэраксНай машыне радыё паміж 1987-м і 1990-м гадамі па дзьве копіі кожнае карткі.

Картатэка, калі яе ўзялі ад В. Пашкевіч, была даведзеная да літары “R” уключна. У 1987 годзе Юрка Станкевіч згадзіўся за сымбалічную плату рабіць кампутарны набор слоўніка. Праца была няпростай: даводзілася расшыфроўваць рукапіс, не заўсёды чытэльны. Але на гэта ў наборшчыка была ўжо практыка. Ён уклаў і выдаваў малыя падручнікі беларускай мовы зь беларуска-ангельскімі слоўнічкамі для беларускіх нядзельных школак у Амэрыцы й Канадзе і выявіў вялікае зацікаўленьне ў выданьні грунтоўнага ангельска-беларускага слоўніка.

Адзін камплект картачак Вітаўт з Зорай высылалі Юрку, а другі пакідалі для праверкі набранага ўжо тэксту. Наборшчык працаваў зь вялікай акуратнасьцяй і любоўю да гэтага праекту. Тым часам спн. Пашкевіч дапрацоўвала далейшыя карткі і дасылала Станкевічу беспасрэдна з Канады. У міжчасе намаганьнямі Вітаўта й Зоры Кіпеляў была створаная зь людзей у Нью-Ёрку й ваколіцах рэдкалегія слоўніка ды пачалася сыстэматычная рэдактарская й дадаткова перакладніцкая праца над кампутарным наборам. Шмат каму зь сяброў працоўнай групы былі раздадзеныя карткі аднае літары ці часткі яе на перагляд і дапаўненьні. Трэба зазначыць, што для кожнага з удзельнікаў гэта было заданьне, зь якім ніколі раней не даводзілася сустракацца. Пасьля кароткага часу індывідуальнай працы кожнага над сваёй літарай пачаліся супольныя абмяркоўваньні.

У розным часе у склад працоўнай групы ўваходзілі: Антон Адамовіч, Міхась Бахар, Томас Бэрд, Вера Запруднік, Янка Запруднік, Вітаўт Кіпель, Зора Кіпель, Алла О. Романо, Васіль Русак, Юрка Рапецкі, Зьміцер Саўка, Аляксандар Сільвановіч, Юрка Станкевіч, Джон Стэнлі, Антон Шукелойць, Сяргей Шупа, Алена Юрэвіч, Лявон Юрэвіч. Моўныя кансультацыі даваў Сяргей Запрудскі. Зборкі працоўнай групы адбываліся меншбольш рэгулярна раз або два разы на тыдзень, найчасьцей у залі царквы Жыровіцкай Маці Божай (БАПЦ) у Гайленд-Парку ў штаце Нью-Джэрзі. Апошнімі двума гадамі рэдкалегія ў складзе Янкі Запрудніка, Вітаўта Кіпеля й Аляксандра Сільвановіча зьбіралася ў доме Янкі й Надзі Запруднікаў. На працягу ўсяго часу апрацоўваньне матар'ялу адбывалася павольна, бо ніхто зь сяброў рэдкалегіі ня быў прафэсіяналам у галіне моваведы й лексыкаграфіі. Апрача таго, кожны быў заняты сваёй справай. Праца над слоўнікам трымалася на энтузіязме, на жаданьні бачыць апублікаваным вельмі патрэбны дапаможнік для вывучэньня ў Беларусі найбольш прэстыжнае й патрэбнае замежнае мовы.

З часам былі ўзгодненыя папраўкі й дапаўненьні ўсіх літараў слоўніка, апрача трох апошніх (X, Y, Z). Зьмест будучай публікацыі павялічыўся недзе на 20-25 адсоткаў. Рэдкалегія дадала англамоўныя скароты, кампутарную тэрміналёгію, некаторыя мэдычныя, эканамічныя, спартовыя тэрміны, пабольшыла колькасьць ілюстрацыйных фразаў.

У 1995 годзе кампутарны набор слоўніка пераняў ад Юркі Станкевіча, які быў ужо перабраўшыся ў Прагу, Сяргей Шупа, таксама ў Празе. Шупа зьмяніў трансьлітарацыю вымаўленьня, дапасоўваючы яе да менскай практыкі, дапоўніў слоўнікавы запас, дадаў слоўнік геаграфічных назоваў. У ходзе ўсяе паступова мянялася і ўдасканальвалася структура слоўнікавых артыкулаў і графіка. Калі ўся праца была менш-больш закончана, вычытку ангельскай часткі слоўніка прарабіў праф. Томас Бэрд зь Вітаўтам Кіпелем у Куінскім каледжы ў Нью-Ёрку.

На працягу апошніх гадоў працы лік сяброў рэдкалегіі рэзка зьнізіўся. Адыйшлі ў вечнасьць Антон Адамовіч (1998 г.), Васіль Русак (2001 г.), Зора Кіпель (2003 г.) Валентына Пашкевіч (2004), а некаторыя іншыя сябры ў моц розных акалічнасьцяў пакінулі ўдзельнічаць у працы над слоўнікам. Рэдкалегію ачольвала да вясны 2003 году сьв. пам. Зора Кіпель, а далей – Янка Запруднік. Ад восені 2003 году папаўняньне слоўнікавага запасу й рэдагаваньне рабілі Янка Запруднік, Вітаўт Кіпель, Аляксандар Сільвановіч і Сяргей Шупа.

Зборам ахвяраваньняў на выданьне слоўніка займаўся ўвесь час Вітаўт Кіпель. З гэтых грошай быў аплачаны кампутар для набору слоўніка.

Варта зазначыць, што нікому зь сяброў рэдкалегіі ніякай платы за працу давалася. Наадварот, яны самі пакрывалі немалыя выдаткі на аплату транспарту, паперы, капіяваньня ды іншага.

Што да моўных і правапісных асаблівасьцяў слоўніка, дык ён, бясспрэчна, аўтарскі, але ня цалкам. Няўхільна рэдкалегія рабіла зьмены й дапаўненьні.

***Янка ЗАПРУДНІК***

Па інфармацыю аб слоўніку зьвяртайцеся на адрас:
***J. Zaprudnik***
***42 Deerfield Rd.***
***Somerset, NJ 08873***
***janzap@aol.com***

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД ГАЗЭТЫ “БЕЛАРУС” АХВЯРАВАЛІ:

| | |
|---|---|
| А. Груша | 110 |
| Т. Серафімовіч | 60 |
| Л. Літаровіч | 50 |
| Н. і А. Сільвановіч | 50 |
| Н. і С. Дудар | 40 |
| Н. Кіт | 40 |
| Р. Жук-Грышкевіч | 30 |
| М. Калядка | 30 |
| М. Тарашкевіч | 30 |
| В. Яскевіч | 30 |
| Л. Шурак | 20 |

**Ахвяраваньні, сабраныя на 27 Сустрэчы Бел. Паўн. Ам.:**

| | |
|---|---|
| К. Вініцкая | 100 |
| Я. Кажан | 60 |
| Я. Запруднік | 50 |
| Т. Стагановіч | 50 |
| С. Сумскі | 50 |
| М. і К. Верабей | 40 |
| а. І. Лабацэвіч | 40 |
| В. Кіпель | 40 |
| Л. і М. Сагановіч | 40 |
| Ю. Касьцюкевіч | 30 |
| Т. Красоўская | 30 |
| І. Сурвілла | 30 |
| В. Заморскі | 25 |
| Ананімна | 20 |
| В. Дубяга | 20 |
| Я. Кабяка | 20 |
| А. Міцкевіч | 20 |
| В. і М. Сенько | 20 |
| Г. Стагановіч | 20 |
| Л. Стагановіч | 20 |
| А. Шукелойць | 20 |
| Амэр. Сусьв. Патрыярхат | 5 |
| Ананімна | 5 |

**Заміж кветак на магілу Адольфа ГУБЭРТА:**

| | |
|---|---|
| Д. і Ф. Губэрт | 40 |

**Усім шчыры дзякуй!**



**Віншуем**

***паважанага Кастуся ВЕРАБ'Я, шматгадовага актыўнага ўдзельніка грамадзкага жыцьця і падпісчыка газэты “Беларус” з 75-годзьдзем зь дня нараджэньня. Зычым моцнага здароўя і посьпехаў ва ўсіх справах.***


**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае штомесячна:
***Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне***
Сусьветнае сеціва: ***baza-belarus.org***
Падпіска $30 на год.
Чэкі выпісвайце на BIELARUS

**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published monthly by
***Belarusan American Ass'n, Inc.***
Subscription $30 yearly
Make checks payable to ***BIELARUS***

Рэдагуе калегія.
Адказны рэдактар Марат КЛАКОЦКІ
Падпіска Сяргей ТРЫГУБОВІЧ

Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.
Перадрук дазваляецца толькі пры ўмове зазначэньня крыніцы.



Адрас для дописаў і кантактаў:
***BIELARUS***
***P.O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
E-mail:
***hazetabielarus@att.net***
Сусьветнае сеціва:
***www.bielarus.org***
ISSN 1054-9455
Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.